www.nv-online.info

№ 29 (4178)

11 красавіка 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ПРИМЕР

## «Белоруснефть»: обеспеченность собственной электроэнергией на 90 процентов

В 2016 году РУП «Производственное объединение «Белоруснефть» самостоятельно выработало 340 млн кВт·ч электроэнергии, что составило 90 процентов от общего потребления всего его предприятиями. И это за счет использования местного вида топлива – попутного нефтяного газа и солнечной энергии.

В нынешнем году «Белоруснефть» введет в строй новые мощности по генерации электрической энергии. Заработает фотоэлектрическая станция мощностью 56 МВт, которая будет крупнейшей в стране. Возрастет также объем выпуска электроэнергии из попутного нефтяного газа.

В планах РУП «Белоруснефть» строительство крупнейшего ветряка на территории Минской области. По проекту суммарная мощность 15 ветроэнергетических установок составит до 50 МВт.

АФІЦЫЙНА



Фёдар ДАМАЦЕНКА, гендырэктар МТЗ:

## «У сакавіку на прадпрыемстве ў сярэднім атрымлівалі 950 рублёў»

Сярэдні сакавіцкі заробак на МТЗ склаў 950 рублёў, распавёў агенцтву «Мінск-Навіны» гендырэктар прадпрыемства **Фёдар Дамаценка.** Пры гэтым апошнія два месяцы, паводле яго слоў, з прадпрыемства ніхто не звальняўся.

– *У 2016 годзе мы не проста пратрымаліся, але і змаглі палепшыць становішча. Будзем імкнуцца да павелічэння заробку, бо паказчыкі завода дазваляюць ісці наперад,* – удакладніў Фёдар Дамаценка.

Нагадаем, у прамысловасці сярэдняя зарплата ў лютым склала 774,6 рубля (за сакавік дадзеныя яшчэ не апублікаваны).

Гендырэктар прадпрыемства таксама закрануў тэму звальненняў.

– *Дэ-факта можна канстатаваць: ужо два месяцы ў нас ніхто не звальняўся. Павышаем прадукцыйнасць працы. У тым ліку за кошт сумяшчэння спецыяльнасцяў, што, дарэчы, не забаронена заканадаўствам. Згодна з нашым унутраным дакументам, калі чалавек звольніўся або пайшоў на пенсію, іншаму работніку не забаронена праявіць ініцыятыву і выконваць працоўныя абавязкі таго, хто сышоў. Пры гэтым прыбаўка да зарплаты можа даходзіць да 50 працэнтаў. Самае цікавае, людзі нас у гэтым падтрымліваюць,* – адзначыў Фёдар Дамаценка.

ТЭМА ДНЯ: ДВА ПОГЛЯДЫ



Уладзімір СЯМАШКА,
намеснік прэм'ер-міністра Беларусі:

## «На вельмі выгадных умовах, у добрыя тэрміны, па нізкіх стаўках...»

Беларусь дамовілася з Расіяй аб прадастаўленні беларускаму боку новага крэдыту памерам прыкладна 1 мільярд долараў, паведаміў у эфіры АНТ намеснік прэм'ер-міністра Уладзімір Сямашка.

Чыноўнік пракаменціраваў некаторыя вынікі перамоў беларускага і расійскага прэзідэнтаў у Санкт-Пецярбургу 3 красавіка. Так, паводле яго інфармацыі, пасля сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі і Уладзіміра Пуціна будзе зноў адкрыта крэдытаванне па лініі Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця. *"Трэці, чацвёрты траншы, кожны па 300 мільёнаў долараў – разам гэта 600 мільёнаў у год паступіць у Беларусь на вельмі выгадных умовах, у добрыя тэрміны, па нізкіх стаўках і гэтак далей. Таксама было дадзена даручэнне яшчэ дадаткова каля 1 мільярда долараў крэдыту таксама на добрых умовах выдзеліць"*, – сказаў Уладзімір Сямашка.

**Як рэагаваць на такую заяву віцэ-прэм'ра? Ці можна гэта назваць перамогай беларускага боку?**



Леанід ЗАІКА,
кіраўнік аналітычнага цэнтра "Стратэгія":

## «Нас заганяюць у кут»

– *Радавацца тут няма чаму,* – упэўнены эканаміст **Леанід Заіка**. – *У снежні мы павінны былі Расіі за газ 350 мільёнаў долараў, а цяпер ужо – 720 мільёнаў. Тры месяцы мы надзімалі шчокі, а даўгі раслі. І зараз расіяне даюць нам грошы ў выглядзе крэдыту, якія мы павінны будзем аддаваць. Нехта, напэўна, думае, што гэта халява. А гэта не халява. На самай справе Крэмль падтрымаў не беларусаў, а Аляксандра Лукашэнку, каб ён падоўжыў сваё шэсце з крышталёвым сасудам у руках, як ён некалі вобразна назваў Беларусь.*

*Але не трэба забывацца, што сукупны дзяржаўны доўг Беларусі ў 2016 годзе перасягнуў 50 працэнтаў ВУП. І калі падзяліць валавы знешні доўг Беларусі паміж усімі жыхарамі краіны, то атрымаецца, што кожны з нас павінен амаль 4 тысячы долараў... Нашы праблемы вырашаць не крэдыты, а дзяржаўная стратэгія, якая павінна быць накіравана на павышэнне эфектыўнасці эканомікі. Але гэтага няма. Нас заганяюць у кут. І што потым запатрабуе Расія – можна толькі здагадвацца.*

ПОЗИЦИЯ

Александр БУХВОСТОВ:

## «Революцией не пахнет...»



*На 1 мая в Минске намечен Марш солидарности. Заявителем акции выступает Белорусский конгресс демократических профсоюзов. На вопросы «Белорусского партизана» ответил лидер оргкомитета по созданию Белорусской партии трудящихся* ***Александр Бухвостов.***

**– Александр Иванович, скажите честно: не боитесь, что 1 мая может повториться то, что было 25 марта?**

– У нас на днях состоялось заседание оргкомитета по проведению акции, там собрались представители почти всех оппозиционных движений и структур. Обсуждали и этот вопрос. Решили заявить маршрут, по которому вероятность разрешения проведения акции достаточно высокая – от Академии наук до площади Бангалор. Наша главная цель – дать возможность людям свободно пройтись и не подставить их под дубинки омоновцев.

**– Тем не менее требования к властям у вас заявлены довольно серьезные, почти революционные.**

– Требования могут быть и более острые, в том числе и политические. Никто же не запрещает требовать даже отставки главнокомандующего.

Я считаю, что 1 мая власть должна дать возможность людям пройтись по улицам города, чтобы массово отметить день солидарности трудящихся. Поэтому, кстати, наша акция и называется Марш солидарности.

**– Значит, так называемых дармоедов вы на акцию не приглашаете?**

– *(Смеется.)* Приглашаем всех, и тунеядцев в том числе!

Мне кажется, летом акции немного затихнут, люди будут заняты дачами, кто-то уедет на море. А сейчас народ выходит на акции протеста не только из-за печально известного декрета №3. Многие выходили потому, что низкая зарплата, цены растут, на пенсию прожить нельзя, работу найти сложно. Мы вообще, кстати, будем требовать отмены всех президентских декретов – это позиция нашего профсоюза.

**– Прошу прощения за вопрос, но... Вы на полном серьезе верите, что это возможно?**

– Я верю в то, что нет ничего невозможного. Некоторым, может, кажется, что это из области фантастики, особенно учитывая ту силу, которую власть демонстрирует в последнее время. Но ведь бывало и хуже. А диктатуре рано или поздно приходит конец. Наше дело – приближать этот день. И не давать людям совсем впасть в уныние.

25 марта, на мой взгляд, немного поторопились с этими волюнтаристскими призывами.

**– Вы что имеете в виду?**

– Например, Николай Статкевич заявил: мол, всё, скажем «баста»! Но «Баста!» можно заявить и сидя дома в кресле. А выйти и громко сказать то же самое на улице и добиться изменений – ну не время еще. Пока нужно людям дать возможность почувствовать, что они действительно сила, что всё могут. А так некоторые впервые вышли на акцию протеста 25 марта и сразу попали под жесткий прессинг...

**– Кстати, Николай Статкевич тоже призывал выйти на акцию 1 мая. Он входит в оргкомитет Марша солидарности?**

– Нам не хотелось бы, чтобы 1 мая были какие-то альтернативные призывы. И если уж выступать оппозиции, то делать это нужно единым блоком. У всех ведь сейчас требования примерно одинаковые.

**– Ну а если не разрешат акцию? Есть ли у вас план на этот случай?**

– Тогда будет принимать решение оргкомитет. Ответственность за акцию на себя взял Белорусский конгресс демократических профсоюзов. 1 июня стартует сессия МОТ. И если 1 мая будут какие-то проблемы, то вполне вероятно, что в адрес белорусской власти снова полетят упреки, что она нарушает права трудящихся, в том числе и на проведение мирных демонстраций.

**– А если Федерация профсоюзов Беларуси захочет провести какую-то акцию 1 мая?**

– Не исключено, что они тоже заявят культурно-массовое мероприятие, чтобы отметить Праздник труда. Но независимые профсоюзы этот праздник не признают. Мы 1 мая отмечаем не Праздник труда, а День международной солидарности трудящихся. Поэтому это будут два разных мероприятия.

**– Александр Иванович, а по вашим прогнозам: изменится ли в Беларуси социально-экономическое положение в ближайшее время? И чего ждать – ухудшения или все-таки улучшения ситуации?**

– Я недавно общался с рабочими столичных заводов. Настроения у людей такие: они ругают власть, но при этом готовы терпеть. На многих предприятиях молодых рабочих мало, кадровый потенциал низкий. И основная масса рабочих – или предпенсионного возраста, или пенсионного. И их вполне устраивает зарплата в 400–600 рублей.

Есть вероятность, что предприятия остановятся и люди потеряют работу. Но такие настроения не ярко выражены среди рабочих. Одним словом, 17-й год, но не тот. Революцией не пахнет.

АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ

Уладзімір КОЛАС:

## «На вялікі жаль, народ звычайна ўздымаецца праз страўнік»




*Апошнім часам зусім не чуваць голасу Рады беларускай інтэлігенцыі і яе кіраўніка Уладзіміра Коласа. "Народная Воля" высветліла, чаму Колас знік з публічнай прасторы, і заадно пацікавілася ягонымі думкамі наконт падзей, якія адбыліся ў грамадска-палітычным жыцці краіны за апошні час.*

**– Уладзімір Георгіевіч, раней вы былі актыўным удзельнікам палітычнага жыцця, а апошнім часам вас зусім не чуваць. Што здарылася?**

– Проста ўзяў тайм-аўт на развагі пра тое, што сёння адбываецца ў краіне. Пагадзіцеся, сёння ўвогуле мала хто ведае, што рабіць у той сітуацыі, у якой мы ўсе апынуліся.

Ну, і ёсць клопаты асабістага плана. Да таго ж заняты важнымі справамі, пра якія пакуль, па шчырасці, не вельмі хацелася б публічна распавядаць.

**– Каб не сурочыць?**

– На жаль, у нас складваецца такая сітуацыя, што калі ў цябе нешта атрымліваецца, то гэта шмат каго крыўдзіць, выклікае нядобразычлівыя каментарыі, а можа, нават і дзеянні. Таму мы крышку заціхарыліся, але хутка, напэўна, пра ўсё будзе вядома. Спадзяюся, задуманае атрымаецца.

**– А што з ліцэем? Ён яшчэ працуе?**

– Працуе. І ў гэтым годзе ў нас ізноў наплыў. Мы прымаем дзяцей пасля 7-га класа. У гэтым годзе і дзеці вядомага барда Зміцера Бартосіка да нас прыйшлі, і журналіст Ігар Карней ужо трэцюю дачку да нас прывёў... Усе вельмі задаволены. Дзеці вучацца, ім камфортна, яны жывуць цікавым жыццём, атрымліваюць добрую адукацыю і, што вельмі важна, добрыя перспектывы. Я ім сам зайздрошчу са страшнай сілай!

Спадзяюся, у нас атрымаецца на такім жа высокім узроўні стварыць і Нацыянальны ўніверсітэт. Але гэта справа бліжэйшай будучыні.

**– Вы кіраўнік Рады беларускай інтэлігенцыі. Столькі гучных падзей за апошні час адбылося, а Рада маўчыць...**

– Сапраўды, голасу Рады не чуваць. Мы думаем, што рабіць. Раней мы думалі, што людзі проста не разумеюць, што для таго, каб дамагчыся нейкага выніку, трэба скансалідавацца. А цяпер мы ўсвядомілі, што ўсе гэта цудоўна разумеюць, але тым не менш чамусьці свядома ламаюць гэтую кансалідацыю. І мы аказаліся проста бяссільныя гэтаму супрацьстаяць, бо ёсць тыя, хто развальвае любую спробу аб'яднацца. У выніку атрымліваецца такая імітацыя палітычнай дзейнасці. І ўдзельнічаць у гэтым асабіста ў мяне няма ніякага жадання. Бо я зацікаўлены ў тым, каб праца была выніковай. Мне сумна і прыкра глядзець на гэтае какецтва перад донарамі, на тое, як некаторыя выпінаюць сябе і паліваюць брудам іншых. Мне нецікава гэтым займацца.

І падзеі, якія разгарнуліся 25 сакавіка, паказалі нейкае дно ўсяго гэтага. Калі ты заклікаеш людзей на акцыю, калі кажаш, што ўзначальваеш, – значыць, узначальвай і праводзь гэтую акцыю, нягледзячы ні на што...

**– А вы самі на акцыі ходзіце?**

– Хаджу. Выходзіў і 25 сакавіка. І ў Курапатах быў. Як грамадзянін я свой абавязак выконваю, але выходзіць з мікрафонам у руках і нешта прамаўляць, некуды клікаць людзей за сабой – у сённяшняй сітуацыі я не бачу ў гэтым сэнсу.

Да апошніх прэзідэнцкіх выбараў у мяне захоўвалася нейкая вера, надзея, што сітуацыя можа змяніцца. І не толькі я, але і частка наменклатуры так думала. У апазіцыю некалі прыйшлі і былы старшыня Акадэміі навук Аляксандр Вайтовіч, і экс-дыпламат і міністр Міхаіл Марыніч, і той жа былы рэктар БДУ Аляксандр Казулін. Яны таксама лічылі: тое, што маем, не назаўсёды, выбары могуць быць чэснымі і справядлівымі. А цяпер мы бачым, што нічога не мяняецца. На ўсё гэта яшчэ накладваюцца пэўныя паводзіны людзей з так званага дэмакратычнага лагера. Калі мы не можам кансалідаваць людзей, якія хочуць перамен, так, каб гэтыя перамены нарэшце здзейсніліся. Атрымліваецца, што сёння, наадварот, мы людзей дэзарыентуем, распыляем свае сілы, і нас паасобку нейтралізуюць і закрываюць. Таму ў гэтай сітуацыі трэба засяроджвацца на канкрэтных справах, што мы і спрабуем рабіць.

**– Дык Рада інтэлігенцыі яшчэ існуе ці ўжо не існуе?**

– Намінальна – так. Безумоўна, мы сустракаемся, абменьваемся думкамі, але ад нейкіх заяў устрымліваемся. Бо заявамі ўсё роўна праблему не вырашыць. А паўтараць адно і тое ж нам надакучыла.

**– І чаго, на ваш погляд, увогуле чакаць ад той сітуацыі, якая сёння склалася ў грамадстве?**

– На вялікі жаль, падзеі развіваюцца не па лепшым варыянце. На маю думку, эканамічная сітуацыя бліжэйшым часам лепшай не стане. А, на вялікі жаль, народ звычайна ўздымаецца праз страўнік. І вось калі дойдзе да страўніка, людзі выйдуць на плошчу. Нават у той жа Польшчы так было. Калі паднялі цэны на мяса ў заводскай сталоўцы, тады рабочыя выйшлі і дамагліся перамен.

**– Вы яшчэ казалі пра тое, што многае залежыць ад наменклатуры. І калі яна адчуе сябе пакрыўджанай, то перамены адбудуцца вельмі хутка.**

– Наша наменклатура даўно ўсё разумее. І чыноўнікі таксама з задавальненнем усё памянялі б, але яны разважаюць прыкладна такім чынам: а ці не будзе горш ад тых перамен? Вось узяць нават тыя ж самыя выбары. Напрыклад, калі наменклатура адкрыта выкажацца пра свае прыярытэты, яна павінна быць упэўнена, што той, на каго зроблена стаўка, пераможа. Ніхто не будзе ставіць на тых, хто ўвесь час кажа: мы ідзём на выбары, каб данесці свае ідэалы да насельніцтва, але на перамогу не разлічваем. І ўлада гэта выдатна разумее.

**– А што цяпер рабіць? Варта апазіцыі клікаць людзей на плошчу ці не? Будзе плён ад масавых акцый?**

– Я думаю, можна заклікаць, але калі ты гэта робіш, то павінен несці адказнасць за тое, што там адбудзецца. Калі запрашаеш людзей проста пад амапаўскія дубінкі, павінен так і казаць: мы прыйдзем на плошчу паказаць, якія мы мужныя, што мы нічога не баімся, але атрымаем дубінамі, будзьце да гэтага гатовы.

А калі палітык настроены на перамогу, то да таго, як клікаць на плошчу, павінен добра падрыхтавацца. Павінен быць нейкі план на перамогу, разумееце? А пакуль усе планы пішуцца наверсе. Сёння ўжо ясна, для чаго людзей выклікалі на плошчу 25 сакавіка. Каб паказаць Расіі, як тут змагаюцца з нацыяналізмам, – якраз жорсткі разгон адбыўся напярэдадні сустрэчы Лукашэнкі і Пуціна. На мой погляд, гэты сцэнарый быў разыграны менавіта для гэтага. І ён спрацаваў.

На мой погляд, каб быў вынік ад працы апазіцыі, трэба не разборкамі займацца – яны ўжо ўсім надакучылі. Трэба вызначыць моцнага лідара, структуру, план працы і несці адказнасць за вынікі сваёй працы.

**– З моцным лідарам за апошнія нават 10 гадоў апазіцыя, на жаль, так і не здолела вызначыцца...**

– Будзем спадзявацца, што, можа быць, маладое пакаленне палітыкаў, якое сёння выходзіць на першы план, улічыць гэтыя памылкі. Ну і тая ж наменклатура, калі хоча жыць, зробіць нейкія высновы і будзе мяняцца. А пакуль, як заўсёды: спадзяёмся на лепшае, а рыхтуемся да горшага.

**– Уладзімір Георгіевіч, а як у вас са здароўем? Чуткі хадзілі, што, маўляў, вас няма ў публічнай прасторы яшчэ і з-за нейкіх хвароб...**

– Ведаеце, неяк са здзіўленнем для самога сябе адзначыў свой 65-ы дзень народзінаў. Шчыра кажучы, я не адчуваю сябе на гэты ўзрост. Я ж увесь час сярод моладзі знаходжуся, дык і сам быццам бы малады! Але тым не менш іншы раз і сэрца нагадвае пра тое, што яно ёсць, і моцна прыцісне. Але пакуль усё – дзякуй Богу!

**Марына КОКТЫШ.**

### З асабістай справы

*Уладзімір Колас, беларускі кінарэжысёр, педагог, заснавальнік і кіраўнік Беларускага гуманітарнага ліцэя (з 1990 года).*

*Нарадзіўся 22 верасня 1951 года.*

*Скончыў МДЛУ і Вышэйшыя рэжысёрскія курсы ў Маскве. Зняў мастацкія і дакументальныя фільмы «Дрэвы на асфальце», «Хочаце – кахайце, хочаце – не», «Сны аб Беларусі», «Францыск Скарына», «Максім Гарэцкі», «Дамова з Гітлерам», «Галерэя Ады», «Белы ветразь над Прыпяццю» і іншыя.*

*Лаўрэат узнагарод шэрагу фестываляў.*

*Кіраўнік Рады беларускай інтэлігенцыі.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Не знаюць шведы пра нашы беды

Шведскі ўрад наракае на тое, што летась насельніцтва заплаціла задужа шмат падаткаў: "лішніх" у бюджэце ажно 4,5 мільярда долараў. Чыноўнікі заявілі, што збіраюцца вярнуць грошы насельніцтву.

Харошы вельмі ўрад у шведаў,
Заўсёды дбае пра людзей,
Не лічыць іх за дармаедаў,
Наогул спраўна рэй вядзе.
Ён не баіцца праўды-маткі,
Не прагне лішняга дабра.
Напрыклад, лічыць, што падаткі
Ён у народа перабраў.
Канешне, шведы – не вароны,
Ды ўсё-ткі не адчуў ніхто,
Што ўрад крыху адцяпаў
кроны –
Ці тысячу, ці толькі сто.
І шведскі ўрад прыняў рашэнне:
Вярнуць народу лішкі след.
І, растапырыўшы кішэні,
Чакае здачу кожны швед…

* * *

Мы часта чуем ад улады:
"Я дбаю пра людзей!"
Аднак
Яшчэ з савецкіх пор
Уклады
Не можа нам вярнуць ніяк…

## Раптам пракурора напаткала гора…

Былога памочніка пракурора Брэста асудзілі на 14 год за гандаль псіхатропнымі рэчывамі – спайсамі. Высветлілася, што ён і сам ужываў наркотыкі.

Не сакрэт, бадай, для мас,
Добра знае ўсякі,
Што чамусьці суддзі ў нас
Злыя, як сабакі.
Пры разглядзе спраў яны
Вечна не ў гуморы,
Лепяць-смажаць, як бліны,
Людзям прыгаворы.
І прытым караюць так,
Што хоць стой, хоць падай.
(Хтосьці лічыць, што "сабак"
Нацкавала ўлада.)
Лічаць суддзяў страшным злом
Нашы дэмакраты,
Бо караюцца рублём
Ці ідуць за краты.
Дый яшчэ, скажыце, дзе
Так згушчаюць хмары –
Прыгаворваюць людзей
Да смяротнай кары?
І зламыснікі парой
Просяць-моляць Бога:
"Падымі суддзі настрой –
Хай не судзіць строга!"
Пракладаюць суддзям гаць
Нашы пракуроры.
Ці ж камусь паблажку даць
Просіць з іх каторы?
Ды якраз наадварот:
Служка, што ў мундзіры,
Просіць даць даважкам год,
Тры або чатыры.
…У суды з нядаўніх пор
На разгляд крамолы
Стаў прыходзіць пракурор
Як не ўсе вясёлы.
І калі працэс ідзе,
Ён – у эйфарыі,
Для падсудных у судзе
Ям зусім не рые.
Просіць тым, хто нешта спёр,
Не даваць багата.
Словам, гэткі пракурор
Лепш за адваката!
Сталі суддзі іншы раз
Зыркаць падазрона:
"А адкуль жа сярод нас
"Белая варона"?"
Пракурор у абарот
Трапіў вельмі скора.
Следчы аж разявіў рот:
"Дык у пракурора
Вось чаму такі настрой,
Дабрадушнасць тая:
Ён таргуе наркатой,
Сам яе глытае!"
Не прабачылі яму,
Абышліся строга:
– Сухары сушы ў турму
Для сябе самога!
Аб'явілі прыгавор,
Абламалі крылы…
Быў харошы пракурор –
І таго "закрылі".

* * *

Можа, выкажу лухту,
Ды адобраць людзі:
А няхай бы наркату
Ужывалі й суддзі…

ТОЧКИ НАД «І»

*Читатели «Народной Воли» наверняка обратили внимание на то, что в последние месяцы на страницах газеты появилось несколько публикаций, касающихся неутешительной ситуации в открытом акционерном обществе **«Базис-Новополоцк»**. Понятно, они не могли остаться незамеченными городскими властями. Нет, они не опровергают редакционные материалы, но хотят, чтобы общественность знала, как развивались события, почему крупнейшая торговая сеть оказалась на грани банкротства.*

**Сегодня мы печатаем письмо, которое пришло в редакцию из Новополоцкого горисполкома. Комментарии оставляем за читателями.**

# Подножку поставила жизнь

ОАО «Базис-Новополоцк» было основано в 1962 году и на протяжении многих лет являлось крупнейшей сетью торговых объектов в городе нефтепереработчиков.

За долгий период своей деятельности предприятием было реализовано множество проектов по реконструкции и модернизации торговой сети, достигнуты высокие показали в работе, что было отмечено на уровне не только Витебской области, но и страны в целом.

Успешная экономическая ситуация в стране, развитие инфраструктуры города Новополоцка, необходимость наличия крупного многофункционального торгового центра в микрорайоне, а также прибыльная деятельность ОАО «Базис-Новополоцк» стали главными факторами при принятии решения о строительстве нового торгового центра в 2013 году.

Торговый центр «Глобус» стал инвестиционным проектом в рамках программы «Витторг» – Региональной программы инновационного и инвестиционного развития Витебской области на 2011–2015 годы. Бизнес-план строительства торгового центра в 9-м микрорайоне разрабатывался коммунальным научно-консалтинговым унитарным предприятием «Витебский центр региональных исследований и разработок» с корректировкой РИУП «Научно-технологический парк ПГУ». Бизнес-план прошел полную экспертизу как в Новополоцком филиале, так и в центральном аппарате «Беларусбанка».

Безусловно, для реализации проекта такого масштаба требовались кредитные средства. При разработке бизнес-плана были учтены достигнутые предприятием показатели социально-экономического развития, уровень товарооборота и чистой прибыли. Ситуация показывала, что на погашение кредитов на строительство нового торгового центра потребуется только порядка 10 процентов прибыли предприятия.

К сожалению, за время строительства торгового центра (2013–2015 гг.) существенно изменилась ситуация как в экономике страны в целом, так и в отрасли торговли города Новополоцка. Резко возросла конкуренция среди субъектов частной и государственной форм собственности. Большое развитие получили торговые сети ОО «Рестрэйд» (магазины «Дионис») и ООО «ЕвроТорг» (магазины «Евроопт»).

Следовательно, товарооборот ОАО «Базис-Новополоцк» снижался. Выплаты кредитов и других обязательных платежей привели общество к нехватке оборотных средств. Предприятие теряло экономическую стабильность.

С целью принятия мер по стабилизации ситуации в ОАО «Базис-Новополоцк» городским исполнительным комитетом был принят ряд мер, в частности, разработан комплекс мер по финансовой стабилизации предприятия.

Только в 2016–2017 годах финансовое положение на предприятии шесть раз рассматривалось на заседаниях комиссии по предупреждению экономической несостоятельности (банкротства), восемь раз – на совещаниях при председателе Новополоцкого городского исполнительного комитета.

Кроме того, были тщательно изучены показатели деятельности каждого торгового объекта сети и принято решение о сдаче в аренду убыточных и низкорентабельных объектов или их продаже.

Средства, полученные от аренды и продажи объектов, позволили кратковременно обеспечить стабильную ситуацию.

Кроме того, на постоянном контроле был вопрос по трудоустройству работников предприятия, которые были заняты на проданных либо сданных в аренду объектах. Часть работников была переведена в работающие магазины ОАО «Базис-Новополоцк», а ряд работников приняты на работу на предприятия арендаторов.

С целью обеспечения рабочими местами 200 (двухсот) работников предприятия было принято решение о передаче сети объектов общественного питания ОАО «Базис-Новополоцк» КУП по оказанию услуг «Гостиничный комплекс «Новополоцк».

ОАО «Базис-Новополоцк» с ответственностью относится к своим обязательствам в отношении работников предприятия, находящихся в отпуске по уходу за ребенком до достижения им возраста трех лет. По состоянию на 23 марта 2017 года предприятие не имело задолженности по выплате пособий перед данной категорией работников, а также задолженности по заработной плате перед работниками предприятия.

***

*Что ж, редакция газеты «Народная Воля» принимает к сведению официальную информацию Новополоцкого горисполкома. Хотя несколько слов мы должны поведать: обо всем, что сказано в письме, наши читатели давно знали бы, будь руководство ОАО «Базис-Новополоцк» пообщительнее с журналистом Романом Васюковичем.*

БОЛЬ

# Такое нельга забыць…

Люблю чытаць артыкулы, у якіх закранаюцца злабадзённыя праблемы. Вось нарэшце на дзяржаўным узроўні загаварылі пра Курапаты, пра стварэнне мемарыяла пакутнікам сталінскага рэжыму. Лічу, увесь беларускі народ падтрымае гэту ідэю. Мне хочацца задаць толькі адно пытанне: чаму так позна апомніліся нашы ўлады? Хутчэй за ўсё, яны чакалі, калі сыдуць з гэтага свету ўсе сведкі тых жудасных падзей і калі будуць знішчаны ўсе дакументы, каб нашчадкі не ведалі прозвішчаў ні расстраляных, ні катаў. Чаму ў 1990-я гады па гарачых слядах не падтрымалі Зянона Пазьняка, які быў першаадкрывальнікам гэтага злачынства? Колькі бруду, колькі хлусні вылілі на гэтага сумленнага чалавека!

Я карэнная мінчанка. Наша хата стаяла на ўскрайку Лагойскага тракту, па якім везлі на расстрэл у Курапаты людзей. Хаця я была яшчэ малая, але добра памятаю: калі змяркалася, па шашы ехалі крытыя машыны невялікай калонай. Мае бацькі, адгарнуўшы вугалок фіранкі, глядзелі на іх са страхам. А калі яны знікалі з поля зроку, казалі з палёгкай: "Праехалі". Яны баяліся, што могуць забраць і іх.

У сям'і мамы энкэвэдзісты арыштавалі спачатку мужа яе сястры Іосіфа Кудрэвіча, а праз пару тыдняў – маміну сястру Леакадзію, пакінуўшы ў хаце адну іх дзесяцігадовую дачку Рэгіну, якая ад гора выплакала свае вочы і аслепла. Потым з вёскі да яе прыехала бабуля (маці бацькі), і яна даглядала дзяўчынку. Але спачатку ў іх доме пасялілася сям'я Марцынкевічаў. Сам Марцынкевіч служыў у органах. Ён здзекаваўся з дзяўчынкі, часта біў яе. Праз многія гады па п'янцы прызнаўся, што пасадзіў бацьку Рэгіны з-за хаты. А расстралялі Кудрэвічаў у Курапатах. Аднойчы позна ўвечары бабуля дзяўчынкі выйшла на двор, і ў гэты час якраз ехала міма іх хаты калона машын, і раптам з адной з іх бабуля пачула крык: "Мама!" Калі бабуля выбегла за вароты, машыны ўжо былі далёка.

З мамінай сям'і Матусевічаў арыштавалі яшчэ двух братоў. Аднаго, напэўна, расстралялі ў Курапатах, а другога саслалі на Урал з усёй сям'ёй. З Юркевічаў, сям'і майго бацькі, арыштавалі двух братоў. Адзін згінуў невядома дзе, а другога саслалі з сям'ёй у Карэлію на лесанарыхтоўкі, дзе ён адмарозіў ногі і памёр ад гангрэны. Помню, як горка плакаў тата, калі атрымаў гэту звестку.

Няўжо можна пра такое забыцца? Столькі ахвяр, столькі зламаных лёсаў! Колькі гора выпала на долю нашых бацькоў у час праклятага праўлення Сталіна! Згодна поўнасцю з гісторыкам Ігарам Кузняцовым і акадэмікам Радзімам Гарэцкім, якія прапануюць аб'явіць 2017 год Годам памяці ахвяр бальшавізму. І стварыць у Курапатах да 30 кастрычніка гэтага года сапраўдны мемарыял, каб людзі маглі прыйсці пакланіцца ўсім забітым і памаліцца. І даручыць гэту справу на добры лад трэба было першаадкрывальніку Курапат Зянону Пазьняку, адданаму сыну Беларусі. А для гэтага няхай бы ён вярнуўся на Радзіму.

**А.С.ЮРКЕВІЧ.**
*Мінск.*

SOS!

# Памяць пад… знос?

Гэтая гісторыя пачалася ў 1936 годзе, калі ў Давыд-Гарадку, што на рацэ Гарыні, здарыўся вялікі пажар. Мой будучы дзед, якому тады было шаснаццаць, казаў: палова горада тады згарэла. Згарэў і дом, у якім жыла дзедава сям'я. Але яго бацька, мой прадзед, Сямён Кулага не адчаяўся, разам са старэйшымі сынамі пабудаваў новы двухпавярховы дом, на першым паверсе якога была крама. Вялікая сям'я, дзевяць дзяцей. Жылі, працавалі. А ў 1939 годзе прыйшла савецкая ўлада, амаль адразу будынак нацыяналізавалі – навошта ж простаму каўбасніку такі вялікі дом?..

Потым і самога прадзеда арыштавалі, дзе і калі ён памёр – мы не ведаем.

Амаль 80 гадоў дзяржава выкарыстоўвала будынак, не зрабіўшы ў ім ні разу капітальнага рамонту. З пасляваеннага часу і да мінулага года ў ім была мясцовая гасцініца. Але гораду будынак стаў непатрэбны, і яго вырашылі знесці.

Я, праўнучка Сямёна Кулагі, была супраць такога заканчэння гісторыі дома, пра які ўсё маё дзяцінства чула ад дзеда цікавыя расповеды пра жыццё вялікай працавітай сям'і. Гэты адабраны дом быў заўсёды ў думках і размовах майго дзеда і ягоных братоў і сясцёр, нікога з якіх ужо няма на гэтым свеце. А дом ёсць, і я хацела, каб ён быў і надалей.

Я прапанавала Столінскай раённай адміністрацыі: выкуплю гэты будынак, зраблю там за свае грошы рамонт, каб было прыгожа. Спачатку чыноўнікі як быццам пагадзіліся, а потым сказалі: не прадамо. Знясём, бо будынак занадта стары.

Я напісала ліст у Брэсцкі абласны выканаўчы камітэт. Пра сітуацыю, што ўзнікла, напісалі таксама некаторыя вядомыя СМІ. Прыйшоў адказ: ну добра, не будзем зносіць, зладзім аўкцыён. Можаце купіць дом…

Было гэта ў жніўні. Але прайшоў месяц, другі... Ніякіх паведамленняў пра аўкцыён.

Мы са сваякамі напісалі ліст у Дзяржаўны камітэт па маёмасці з просьбай прадаць нам дом наўпрост, без аўкцыёну, бо гэта ж мы ўратавалі, як нам здавалася тады, дом ад зносу. У адказе значылася, што прадаць нам дом без аўкцыёну могуць, гэта закону не супярэчыць, але рашэнне павінна прыняць мясцовая адміністрацыя.

Тым часам я даслала ў Брэсцкую абласную адміністрацыю меркаванне доктара архітэктуры, прафесара С.А.Сергачова пра цікавасць і нават унікальнасць гэтага будынка.

Але ў адказе, што я атрымала ў лістападзе, значылася: маўляў, Давыд-Гарадок у 2017 годзе стане месцам правядзення абласнога свята ўраджаю "Дажынкі", таму дом ваш вырашана знесці, а на яго месцы пабудаваць… аўтастаянку. Аўтастаянку на месцы ўнікальнага драўлянага дома, які хочуць за прыватныя грошы выкупіць і давесці да ладу нашчадкі былога ўладальніка! У горадзе, дзе ўсяго сем тысяч жыхароў! Дзе пустых месцаў для аўтастаянкі нават у радыусе 100 метраў ад гэтага дома ажно тры!

Але нам паведамілі: "Магчымы варыянт продажу вам дома з абавязковым пераносам яго ў іншае месца". Але як і, галоўнае, навошта пераносіць двухпавярховы дом, які прастаяў тут 80 гадоў і без рамонту за гэты час не развалiўся, нават не знаходзіцца, як сведчыць экспертыза, у аварыйным стане? Дом, які пераэжыў Польшчу, прыход Саветаў, нямецкую акупацыю, зноў Саветы, дастаяў да незалежнасці Беларусі. І цяпер дзеля аднаго дня "Дажынак" яго знесці?

Насупраць дома – помнік і брацкая магіла, дзе пахаваны больш за паўсотню абаронцаў Давыд-Гарадка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Няўжо нельга пабудаваць паркоўку ў іншым месцы?

Мы сабралі больш за 400 подпісаў мясцовых і не толькі жыхароў за тое, каб будынак былой гасцініцы захавалі на ягоным месцы. Мы паведамілі абласной адміністрацыі аб намеры зрабіць у адрамантаваным будынку Музей міжваеннай гісторыі Палесся, канцэпцыю якога зараз распрацоўваем разам з мінскімі вучонымі, а экспазіцыю якога мяркуем стварыць з дапамогай жыхароў Давыд-Гарадка.

Мы прапануем гораду атрымаць да "Дажынак" не новую паркоўку, а новы культурны аб'ект, размешчаны ў гістарычным і цікавым з архітэктурнага пункту гледжання будынку. Задарма! Бюджэту гэта не будзе каштаваць нічога.

Але ў адказ нам пішуць, што музей у Давыд-Гарадку ўжо ёсць, і, маўляў, хопіць.

Ці не таму гэта, што пад знос будынка, як і некалькіх іншых будынкаў, прызначаных для зносу падчас падрыхтоўкі да "Дажынак", вельмі проста спісаць вялікія грошы? Чаму ў Давыд-Гарадку нічога не плануюць будаваць, акрамя паркоўак, а толькі руйнуюць? Ці няма тут карупцыйнага складніка?

І, галоўнае, ці можна яшчэ нешта з гэтым зрабіць? Неяк паўплываць на рашэнне ўлад?..

**Надзея ТУРОЎСКАЯ.**
*Столінскі раён.*

ЧЫТАЧ – ГАЗЕТА

# І Вам моцнага здароўя, Жанна Эдуардаўна!

Душа радуецца, калі пачуеш такі званок. Чытаюць жа "Народную Волю"!

Некалькі дзён таму патэлефанавала ў прыёмную Жанна Эдуардаўна ЯРОТА (даруйце, калі ласка, а раптам недачула Ваша прозвішча і памыляюся), яна вельмі дзякавала за тое, што праз нашу газету змагла пазнаёміцца з індывідуальным прадпрымальнікам **Уладзімірам Міхайлавічам Лахаданавым** і скарыстацца яго паслугамі.

Жанна Эдуардаўна пажадала калектыву рэдакцыі і Уладзіміру Міхайлавічу здароўя, здароўя і яшчэ раз здароўя!

У сваю чаргу, Жанна Эдуардаўна, і Вам жадаем таго ж самага – моцнага здароўя!

Вы – з "Народнай Воляй",
"Народная Воля" – з Вамі!

**Ніна ЛЯВОНЧЫК, загадчыца рэдакцыі газеты "Народная Воля".**

ПРЕДЛОЖЕНИЕ

# Как найти деньги на благоустройство остановок общественного транспорта

Минск, в принципе, чистый город, хотя некоторые остановки общественного транспорта могли иметь лучший вид. Коммунальщики говорят, что не хватает средств на их благоустройство.

А я вот знаю, как можно найти деньги. Для этого жэсовцы должны во всех дворах установить большие щиты для объявлений, а рядом с ними – мусорные ящики.

Если после этого появилось в каком-то месте наклеенное объявление – в присутствии двух свидетелей оно аккуратно срывается и отдается в милицию. Там выясняют, кто дал объявление, и штрафуют на полную катушку. Полученные деньги идут на благоустройство остановок общественного транспорта.

Все просто и законно.

**Бронислав САВЕЛЬЕВ.**
*Минск.*

УСМЕШКА МАСТАКА



Малюнак Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.



# В Египте на три месяца введено чрезвычайное положение

Президент Египта Абдель Фаттах ас-Сиси объявил в стране режим чрезвычайного положения сроком на три месяца после того, как в воскресенье в двух взрывах у коптских церквей погибли более 40 человек.

27 паломников, пришедших в церковь церкви Св.Георгия в городе Танта на христианский праздник Входа Господня в Иерусалим (Вербное воскресенье), погибли во время первого взрыва. Еще 16 человек погибли при взрыве в соборе Св.Марка в Александрии; среди них один полицейский, помешавший террористу-смертнику зайти внутрь церкви.

КТО – КОГО?

# Зюгановцев также нужно проверить…

Депутаты от КПРФ утверждают, что партия «Единая Россия» не только заблокировала их предложение проверить обвинения в коррупции в адрес премьера Дмитрия Медведева, но и в отместку инициировала проверку деятельности коммунистов.

Об этом стало известно из письма первого зампредседателя комитета Госдумы по законодательству Юрия Синельщикова на имя спикера российского парламента Вячеслава Володина.

Депутат Синельщиков был одним из авторов предложения КПРФ проверить обвинения в адрес премьер-министра Медведева, прозвучавшие в фильме, опубликованном «Фондом борьбы с коррупцией» оппозиционера Алексея Навального.

В своем письме Синельщиков просит Володина провести проверку с его участием, а также сообщить ему о ее результатах, чтобы после этого подать в суд иск о защите чести и достоинства.

Депутат также указывает, что, отклонив это предложение коммунистов, Госдума поддержала другую проверку – его деятельности в бытность первым заместителем прокурора Москвы в 2001–2003 годах, которую инициировали единороссы. Синельщиков считает это прямым ответом за попытки КПРФ обсудить скандальный фильм.

В фильме «Он вам не Димон» Навальный утверждал, что Медведев через сеть некоммерческих организаций владеет многочисленной роскошной недвижимостью в России и за рубежом.

Спустя три недели после публикации депутаты Госдумы от КПРФ выступили на пленарном заседании с требованием поручить профильному комитету по противодействию коррупции проверить факты из фильма Навального. Соответствующее протокольное поручение подписали лидеры коммунистов Николай Коломейцев, Денис Парфенов, Сергей Решульский и Юрий Синельщиков.

Но Дума инициативу коммунистов о проверке премьер-министра отклонила: «за» проголосовала только фракция КПРФ, против – два единоросса, остальные 405 депутатов не голосовали вовсе.

БОЛЬШАЯ ПОЛИТИКА

# Глава НАТО предлагает Европе увеличить расходы на оборону

Генеральный секретарь Североатлантического альянса **Йенс Столтенберг** призвал Германию и других европейских членов НАТО в своих же собственных интересах повысить отчисления на оборону. «Речь идет не о том, чтобы угодить США. Речь идет о безопасности Европы», – заявил Столтенберг в интервью немецкому изданию Handelsblatt. Он напомнил, что Европа находится гораздо ближе, чем США, к источникам угроз и зонам кризиса, «ближе к России, Сирии, Ираку».

ЗАКУЛИСЬЕ

# Си Цзиньпину и китайской делегации не хватило места в поместье Трампа

Председателю КНР Си Цзиньпину и членам китайской делегации не хватило комнат в поместье президента США Дональда Трампа «Мар-а-Лаго» в Палм-Бич, где проходила встреча глав двух государств. Об этом журналистам рассказал пресс-секретарь Белого дома **Шон Спайсер.**

По его словам, у организаторов «возник вопрос с количеством комнат в связи с размером китайской делегации», и гостям в полном составе пришлось снимать номера в ближайшем отеле.

Трамп называет Мар-а-Лаго своим «летним Белым домом» и уже принимал в резиденции премьер-министра Японии.

РЕДКИЙ СЛУЧАЙ

# Британец обнаружил в старом танке слитки золота на миллионы долларов

Британский коллекционер Ник Мид нашел в советском танке Т-54 пять золотых слитков стоимостью два миллиона фунтов стерлингов (2,5 миллиона долларов), сообщает The Sun.

55-летний Мид приобрел танк на интернет-аукционе eBay за 37 тысяч долларов. Слитки были обнаружены коллекционером в топливном баке, когда он осматривал танк вместе с механиком Тоддом Чемберленом.

Мужчины вызвали полицию, так как не знали, что делать с находкой. Полицейские изъяли золото, выдав расписку. «Даже если я не получу назад золото, у меня останется прекрасный танк», – сказал по этому поводу британец.

Как выяснилось, купленный Т-54 принадлежал Вооруженным силам Ирака и принимал участие в войне в Персидском заливе 1990–1991 годов. Танк был захвачен войсками международной коалиции и доставлен в Великобританию.

По версии коллекционера, иракские военные спрятали в отсек для топлива золото, похищенное в Кувейте.

ПОЛИТРЕБУС

# Химическая атака в Сирии: кто отравил людей?

Как сказал госсекретарь США Тиллерсон, у Америки нет доказательств, свидетельствующих о том, что Россия каким-то образом знала о готовящейся химической атаке на город Хан-Шейхун в сирийской провинции Идлиб или принимала в ней участие.

Утром 4 апреля город Хан-Шейхун в Идлибе подвергся бомбардировке.

Сразу после авиаудара люди на земле стали задыхаться. Жертвами распыления высокотоксичного газа зарин, по последним данным, стали 89 человек, в том числе 33 ребенка и 18 женщин. Оппозиционные активисты сообщили, что авианалет на город на северо-западе Сирии совершили самолеты сирийской армии или российской авиации. Активисты оппозиции утверждали, что самолеты затем выпустили ракеты по местным больницам, где оказывалась помощь пострадавшим.

МНЕНИЕ

# Россия не выполнила свои обязательства перед международным сообществом

Россия не смогла предотвратить химическую атаку в Сирии, унесшую жизни 89 человек, выразил мнение госсекретарь США Рекс Тиллерсон.

Как сказал Тиллерсон в эфире американского телеканала Си-Би-Эс, Россия в свое время взяла на себя ответственность контролировать процесс уничтожения запасов химоружия в Сирии и гарантировать полное запрещение его производства. Поэтому, по мнению госсекретаря США, вина за то, что в Сирии снова было применено химическое оружие, лежит именно на России.

Со слов Тиллерсона, не так важно, «была ли Россия соучастником, или ее специалисты оказались некомпетентными, или же сирийское правительство их перехитрило», – в любом случае, российская сторона «не выполнила свои обязательства перед международным сообществом».

СЛЫШАЛИ?

# Рекорд в истории премий

Спектакль «Гарри Поттер и проклятое дитя» получил рекордное количество наград на церемонии вручения британской театральной премии имени Лоуренса Оливье.

Постановка была представлена в 11 номинациях и получила девять наград – это рекорд в истории премии.

Пьеса о Гарри Поттере – самая продаваемая книга в Британии за последние 10 лет.

ДАТА

# Бывшие узники Бухенвальда призывают хранить память о жертвах национал-социализма

В мемориальном комплексе «Бухенвальд» близ города Веймар в воскресенье 9 апреля прошло памятное мероприятие, посвященное 72-й годовщине освобождения концлагеря.

Бывшие узники концлагеря призвали молодое поколение хранить память о преступлениях и жертвах национал-социализма.

Концентрационный лагерь Бухенвальд был освобожден 11 апреля 1945 года американскими солдатами. С 1937 года в лагерь были заключены почти 280 тысяч человек из 50 стран. Около 56 тысяч узников были убиты либо умерли от голода, болезней, медицинских экспериментов или на принудительных работах.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Сын Беларусі

***Міхась Кукабака... Прозвішча гэтага чалавека недастаткова вядома беларускаму грамадству, хаця ён з'яўляецца легендарнай асобай, чалавекам, які за свае перакананні адсядзеў у савецкіх турмах і псіхіятрычных бальніцах амаль 17 гадоў. Ягоны незвычайны лёс, барацьба за правы чалавека, за чалавечую годнасць, нязломная пазіцыя, адкрытае мірнае супрацьстаянне эсэсэсэраўскай дыктатуры выклікаюць павагу і захапленне.***

***Антысавецкі нацыянальна-дэмакратычны супраціў у Беларусі меў розныя формы. Аўтарытарная савецкая сістэма працягвала сталінскую палітыку кіравання дзяржавай, заснаванай на пакаранні і страху. У 1950–1980-я гады тысячы беларусаў пераследаваліся дзяржавай за іншадумства, за беларускасць і супраціўленне русіфікацыі, за крытыку савецкага ладу. Але ніхто не стаяў так адчайна і непахісна, так бескампрамісна, як Міхась Кукабака, які нарадзіўся і вырас у Бабруйску.***

***Падводзячы вынікі шматгадовага зняволення, Міхась Кукабака напісаў: "Я атрымаў пераканаўчую маральную перамогу над сваімі катамі і катамі майго народа".***

***У кожнага чалавека ёсць свае слабасці і недахопы. У кожнага ёсць свая мяжа актыўнасці, прынцыповасці, кампраміснасці і саступак. Нам сёння як ніколі патрэбны жыццёвыя прыклады, на якія мы маглі б раўняцца, з якімі звяраць сваё сумленне і свае ўчынкі, на якіх урэшце вучыць маладое пакаленне. Хто нашы героі? Ленін, Брэжнеў і Машэраў ці Каліноўскі, Быкаў і Кукабака? Адказ на гэтае пытанне прадкажа далейшы шлях развіцця Беларусі.***

***9 снежня 2016 года, з нагоды міжнароднага Дня правоў чалавека, у Мінску адбылася сустрэча з беларускім дысідэнтам часоў СССР Міхасём Кукабакам. 3 снежня спадару Міхасю споўнілася 80 гадоў. Па запрашэнні беларускіх праваабаронцаў ён наведаў свой родны горад Бабруйск, а затым і Мінск. Нагодай для прыезду Міхася Кукабакі, які зараз жыве ў Маскве, стаў выхад кнігі, якая так і называецца – "Міхась Кукабака". Кнігу накладам, на жаль, усяго 500 асобнікаў супольна падрыхтавалі да друку Цэнтр даследаванняў грамадзянскай супольнасці Беларусі і не зарэгістраваны беларускімі ўладамі праваабарончы цэнтр "Вясна". Укладальнікам кнігі выступіла беларуская пісьменніца Паліна Сцепаненка. У кнізе сабраны ўспаміны спадара Міхася Кукабакі, ягоныя нарысы і публіцыстыка, лісты, паказана дзейнасць беларускай эміграцыі ў абарону палітычнага вязня.***

**Алесь БЯЛЯЦКІ, праваабаронца.**

***

"Народная Воля" вырашыла пазнаёміць сваіх шматлікіх чытачоў з жыццём нязломнага змагара за правы чалавека. Паколькі вышэйназваная кніга выйшла сапраўды вельмі маленькім тыражом і яе фактычна немагчыма купіць, то на працягу некалькіх тыдняў наша газета будзе даваць магчымасць вам, шаноўныя прыхільнікі дэмакратыі, даведвацца пра надзвычай трагічны і ў той жа час зайздросны лёс нашага знакамітага земляка. Біяграфія Міхася Кукабакі (ад яго імя) у кнізе падаецца на рускай мове, а таму на гэты раз мы вырашылі абысціся без перакладу.

# Жизнь Михася Кукобаки

## Детство и юность

Родился я 3 декабря 1936 года в г. Бобруйске. Хотя до 1958 года в паспорте была дата 2 февраля. Думаю, не ошибка. Видимо, чтобы пораньше меня сплавить из детдома, и сделали на десять месяцев старше. А после армии все стало на свои места.

Из материалов уголовного дела за 1970 год узнал, что мать родилась в 1912 году и работала на лесозаводе там же, в Бобруйске. Сколько себя помню, а это, видимо, с трех-четырех лет, был я нежеланным ребенком. Мать была ко мне равнодушна, и у меня также не было к ней каких-то сыновних чувств.

Мной занималась бабушка, и, похоже, я был для нее смыслом жизни. Вот ее и воспринимал как единственного родного человека. С сожалением вспоминаю, лишь единственный раз мне удалось сделать для нее что-то полезное. Когда нас, троих ребят, переводили в ремесленное училище, то начальство детдома расщедрилось. Всем троим вручили по хорошему шерстяному свитеру красного цвета. Когда бабушка меня навестила, мне с трудом удалось уговорить ее взять свитер. Пришлось слегка соврать, мол, у меня еще есть.

Возвращаясь к взаимоотношениям с матерью, разобрался в этом много позже, приобретя достаточный жизненный опыт и когда уже никого не было в живых.

Отец не вернулся с русско-финской войны. Можно представить, что почувствовала сравнительно молодая женщина в 27 лет, неожиданно оказавшись вдовой с трехлетним ребенком на руках. Это означало поставить крест на личной жизни. От родившегося ребенка можно отказаться в роддоме. Но от трехлетнего некуда деться. Можно его не замечать, но формально он всегда будет дополнительным препятствием для создания новой семьи. Тем более что в результате разных войн сложилась диспропорция полов.

В жизни нередко бывает, когда так называемый основной инстинкт оказывается гораздо сильнее материнского. Даже сегодня, в относительно мирное время, нередко матери отказываются от новорожденных детей или просто бросают, продают и даже убивают их.

Мне повезло, что бабушка оказалась добрым человеком. В детдоме время от времени навещала меня. Однажды сообщила, что мать собирается замуж; показала маленькое фото человека в военной форме. К новости отнесся с безразличием.

Однажды мать все же решила увидеть меня. Встретились на проходной детдома. Пришла на костылях, в сопровождении бабушки. Никаких объятий, перебросились парой ничего не значащих фраз. Я вежливо отвечал на вопросы; сам ни о чем не просил и ни о чем не спрашивал. Эта встреча была первой и последней. В очередной раз пришла бабушка и со слезами рассказала, что мать умерла. Я с некоторым облегчением воспринял новость, но своих чувств не выдал, чтобы не огорчать бабушку.

В 1953 году (я как раз окончил ремесленное училище) большую группу молодежи из Беларуси отправили на стройки Сибири. Я попал в город Ангарск Иркутской области. С нашим желанием никто не считался. Обратной связи с бабушкой никогда не было по причине ее бездомности. По сути, прервалась последняя ниточка, связывающая с родиной. Английский философ XVII века Фрэнсис Бэкон сформулировал: «Любовь к Родине начинается с семьи». Конечно, семейную катастрофу можно списать на мировую войну, развязанную Сталиным с Гитлером. Но война состоит из деталей.

Деревня Вавуличи, в которой мы жили, практически не пострадала за период оккупации. Потому как разных "зой космодемьянских", чтобы поджигать крестьянские дома, в округе не оказалось. А как отступала русская армия в начале войны, всем известно. В деревне располагалась обычная немецкая пехотная часть. Как я понимаю, особых хлопот немцы не причиняли. В нашей хате тоже квартировал немец по имени Рудольф.

*(Продолжение на 6-й стр.)*

